Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 10. Вільня, 8 траўня 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno (Вільня), Ціхая вул. 4, (альбо Міцкевіча 15) кв. 20. Тэлефон № 1207

Падпісная цана: На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак: За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за $1/2$—65, за $1/4$—35, за $1/8$—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр.

## Нацыянальная палітыка ўраду марш. Пілсудскага.

Вядомы знаўца нацыянальнага пытаньня ў Польшчы б. міністар Васілеўскі гэтымі днямі выказаў у варшаўскай газэце „Epoka“ сваю апінію аб нацыянальнай палітыцы ўраду Маршалка Пілсудскага. З тае прычыны, што п. Васілеўскі зьяўляецца цяпер старшынёю Камітэту Экспэртаў у нацыянальных справах пры Радзе Міністраў, яго апінія маець паважнае палітычнаэ значэньне. Падаём словы п. Васілеўскага ў скарочаньні.

— Той час, калі справамі «Крэсаў» і нацыянальнымі меншасьцямі цікавілася толькі невялічкая частка паступовае польскае інтэлігэнцыі—прайшоў. Пасьля маёвага перавароту так сама, як і ў іншых галінах жыцьця і тут пачынаецца новая эра. Мажа зьмены на лепшае і ня ідуць такім быстрым тэмпам, як гэтага вымагаюць патрэбы дзяржавы, можа ў некаторых галінах і ня відаць яшчэ значнае паправы, аднак-жа бязумоўна справа рушылася з месца.

Каб гэта магло стацца, патрэбен быў доўгі час, у які йшла зьмена старое вышэйшае адміністрацыі. Павінны былі прыйсьці і загаспадарыць новыя ваяводы, новыя куратары, якія пачалі ламаць стары закасьцянеўшы адміністрацыйны апарат, шкодны для справы разьвіцьця добрых адносін нацыянальных меншасьцяў да польскае дзяржавы.

Новыя „памаёвыя“ ваяводы спатыкаліся ўсюды з вялікімі перашкодамі. Перашкоды гэтыя і да самых апошніх часоў ня ўсюды яшчэ зломаны. Дзеня-дзе (шмат яшчэ дзе! Рэд.) замеры цэнтральнага ўраду спатыкаюцца з саботажам калі справа ходзіць аб ніжэйшай адміністрацыі. Але, — кажа б. міністар, — новы дух цалком запанаваў у колах вышэйшае адміністрацыі і ў зьвязку з гэтым патроху пачынаюць зьмяняцца настроі.

Заспакаеньне патрэбаў крэсовага жыхарства павінна ісьці ў двух напрамках: гаспадарчым і асьветным. Жыхары ўсходніх зямель павінны ведаць, што дзяржава дбае аб іх дабрабыт, і ня хоча да іх адносіцца памачахаўску.

У гэтым напрамку пайшлі рэформы, як прысьпяшэньне выкананьня аграрнай рэформы, запэўненьне даступнага крэдыту, падтрымліваньне коопэрацыі, помач у адбудове і засевах і г. д.

Далей п. Васілеўскі кажа аб школьнай палітыцы, шырока абгаворваючы вядомы цыркуляр м-н. Бартэля, ў каторым ён вымагае ад настаўнікаў і школьных інспэктароў шанаваньня мовы і асаблівасьцяў іншых народаў, знаёмасьці мовы і г. д.

У справе школьнай палітыкі ад новага школьнага году наступяць рэформы і цэлы абшар

з беларускім насяленьнем будзе выдзелены ў асобны кураторыюм. Падчас летніх канікулаў будуць з'арганізованы курсы для вучыцялёў беларускіх школаў. Адна гімназія адтрымаець правы і будзе ўстаноўлены інтэрнат для вучняў на сто асобаў. На заканчэньне п. Васілеўскі кажа, што ўсе пачынаньні ня вычарпуюць усіх тых замераў і рэформаў, якія хоча правясьці ўрад.

---

## АБ ВІЛЕНСКІМ УНІВЭРСЫТЭЦЕ.

Унівэрсытэт Сцэфана Баторага ў Вільні павінен, як слушна казаў б. рэктар М. Зьдзехоўскі, лучыць тутэйшае маладое грамадзянства бяз розьніцы нацыянальнасьці на грунце навукі, прыязьні і выпрацаваньня пачуцьця польскага грамадзянства. Дарога-ж да гэтага — не зачыняньне шчыльна дзьвярэй унівэрсытэту перад беларускаю моладзяй з матурамі беларускіх гімназіяў, а якраз наадварот, патрэбна адчыніць іх, дазволіўшы беларускай моладзі стацца сябрамі студэнскае сям'і і сынамі віленскае Almae-Matris.

Віленскі Унівэрсытэт перад усім павінен насіць характар краёвае вучэльні, дзе-б разьвіваліся і былі паддаванныя глыбокаму вывучэньню асаблівасьці нашага краю.

У Вільні, і толькі ў Вільні павінны былі-б знайсьці магчымасьць навукі маладыя краёвыя сілы.

Віленскі Унівэрсытэт з такой слаўнай традыцыяй павінен мець некалькі катэдраў беларусазнаўства.

Тут, а ня дзе інш, павінны праводзіцца досьледы мінуўшчыны краю і яго сучаснага палажэньня.

Вільня, дзе пачаўся, ўзрос і ўмацаваўся адраджэнскі беларускі рух, мусіць зрабіцца сапраўды культурным цэнтрам беларускае навукі.

А тады адродзяцца традыцыі слаўнае мінуўшчыны высокае віленскае вучэльні і тады яна стане гадаваць тутэйшую моладзь у духу пашаны, зразуменьня і каханьня краю.

Віленскі Унівэрсытэт павінен стаць вучэльняй, якая-б прыцягвала беларускую студэнскую моладзь з заграніцы — Менску, Латвіі і Літвы.

Тады ня будуць блутацца па белым сьвеце беларускія студэнты, якія ня маюць цяпер доступу ў найбліжэйшы унівэрсытэт і адрываюцца ад родных вёсак.

Тады ня будзе з году ў год цягнуцца беларуская моладзь на Ўсход, дзе прападае для нацыянальнага беларускага руху.

Віленскі Унівэрсытэт—найдалей на Ўсход высунутая пляцоўка заходняе культуры. Але каб яна сапраўды спаўняла сваё натуральнае заданьне, дык павінна згуртаваць краёвую моладзь, узгадоўваць яе, ўзмацняць у ёй неабходную для пасьпеху і сілы краю эмоцыянальную сувязь паміж інтэлігэнцыяй і дзяржавай.

Экспорт маладых беларускіх душаў на Ўсход з усіх бакоў шкодны. Выкіданьне-ж іх з гімназіяў на вёскі, ў палажэньні недавучаных, адарваных ад загону, скалечаных людзей таксама не зьяўляецца карысным.

Ідэя Беларускага Адраджэньня ўжо не памрэ. Моладзь штораз больш горнецца да асьветы і пара ўжо скончыць з палітыкай Грабскіх, якія не хацелі бачыць гэтага. Цяпер не пара для духу Грабшчыны. Людзі, што кіруюць цяпер дзяржаўным ладам у Польшчы, павінны зразумець вагу паднятага тут пытаньня і разумна, з карысьцяй для Рэспублікі і здаволеньня беларускае моладзі, яго разьвязаць.

Адцягваньне і адкладаньне, паводле прыказкі: „якусьці ўладзіцца“ — шкодна і для палякоў і для нас, беларусаў.

Беларускі Студэнскі Саюз, разумеючы вагу і патрэбу азнаямленьня з беларусазнаўствам ува ўсіх яго

---

# Успаміны з Пэрсіі.

(*Гл. № 9 „Б. Д.“*).

Ня буду нудзіць чытачоў апісаньнем гораду Энзэлі, бо горад гэны, як і наагул кожны партовы горад, траціць свой нацыянальны характар. Ведама, ў партовым горадзе Пэрсіі, агульны фон — пэрсідзкі, але ўсё гэта так пераплутана з эўропэйскім, а асабліва з маскоўскім, што апісаньне яго робіцца менш цікавым, чым апісаньне якога-нібудзь іншага гораду, закінутага ў глыбі Пэрсіі, як Казьвін, Хамадан, Тэгэран, Кум у якіх жыцьцё пэрсідзкага народу з яго многавяковай і заняпалай культурай, адбіваецца як у люстры. Апісаньнем гэных гарадоў я займуся ў іншым месцы.

А цяпер лепей скажу некалькі словаў аб клімаце і прыродзе Энзэлі. Энзэлі, як я ўжо казаў, ляжыць на беразе Каспійскага мора. Бераг гэты — нізіна, якая разам з Каспійскім морам ляжыць на некалькі сажняў ніжэй за роўню акіяну і ад мора цягнецца няшырокай палоскай, з поўдня і захаду акружанай высокімі горамі, якія затрымліваюць на сваіх склонах усю вільгаць, наплываючую з Каспійскага мора. Дзеля гэтага клімат Энзэлі, як і ўсяе прыбярэжнае нізіны, якая разам са стокамі гораў творыць провінцыю Гілян, вельмі вільготны. Дажджы, ня толькі падчас зімы, калі яны ў працягу даўжэйшага часу падаюць амаль бязупынна, але і ўлетку зьява звычайная. Паложаны на глыбокім поўдні, бо пад 38° паўночнай шырыні, Гілян зьяўляецца адначасна краінай вельмі цёплай, так што тэмпэратура ўлетку дасягае іншы раз вышэй 45—50 градусаў цяплыні па Рэомюру. Вось цяплыня разам з дастаткам вільгаці і ствараець вельмі прыхільныя варункі для росту расьлін і запраўды ў гэным кутку Пэрсіі земляробства, гародніцтва і садаводзтва знаходзіцца ў стане поўнага росквіту. З хлебных расьлін найлепшы

галінах, злажыў у студні г. г. да Унівэрсытэцкага Сэнату гэтакую просьбу.

„Ад імя Агульнага Сходу Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні, згодна з прынятай 28.XI 1926 г. пастановай, гэтым маем гонар зьвярнуцца да Сэнату з гэткай просьбай:

Мы, студэнты-беларусы, б. гадунцы, амаль што выключна польскіх гімназіяў, у часе студыяў у сярэдніх школах, былі пазбаўлены магчымасьці азнакамленьня з гістарычным прошлым нашае Роднае Зямлі, з яе гаспадарчым і грамадзкім жыцьцём, з беларускай этнографіяй, мовай і літэратурай. Ў Унівэрсытэце Стэфана Баторага, які мае перад усім на мэце разьвіцьцё навуковае працы на вялізарных абшарах усходніх земляў Рэчыпаспалітае, прадметы беларусазнаўства таксама не выкладаюцца.

Аднак навет польская філёлёгія ня можа абыйсьці моўчкі беларускае мовы, акая адыгравала важную ролю ў працэсе фармаваньня польскае мовы, хаця-б пры пераводзе беларускае праўнае тэрмінолёгіі (Літоўскі Статут, ня кажучы аб беларускіх уплывах на мову найвялікшых польскіх поэтаў у краі).

Шак належнае зразуменьне варункаў грамадзкага і гаспадарчага жыцьця краю ёсьць немагчымым бяз грунтоўнага азнаёмленьня з яго прошлым і асабліваю структураю сучаснаю.

Нельга гаварыць аб пазнаньні душы беларускага народу бяз дасьледаў над яго этнографіяй, літэратурай і другімі галінамі народнае творчасьці.

Няхват у Віленскім Унівэрсытэце катэдры беларусазнаўства вызывае нічым не папоўневы і проста шкодны плех у вывучэньні нашым і вашых калегаў другіх нацыянальнасьцяў, якія з краем ад вякоў зьвязаны і ў будучыні тут астаюцца працаваць.

Дзеля гэтага складаем Сэнату гэную нашую просьбу аб утварэньні ў Унівэрсытэце Стэфана Баторага спэцыяльнае катэдры беларусазнаўства, якая-б абняла гісторыю, этнографію, мову і літэратуру беларускую, а заадно паасобныя аддзелы краязнаўства“.

Нажаль, на сваю заяву Б. С. Саюз да гэтага часу афіцыяльна адказу не адтрымаў, а вялікі час ужо ажыцьцявіць лепшыя традыцыі Віленскага Унівэрсытэту.

*Студэнт.*

---

# СЬМЕХ і ЖАРТЫ.

## НАЙШЛА КАСА НА КАМЕНЬ.

Пан Шуляровіч з панам Паповічам селі гуляць у карты. Яны ня зналі адзін аднаго і пазнаёміліся толькі ў клюбе.

Праз некалькі часу, пан Шуляровіч, праграўшы ўсе свае грошы, спынў гульню і ўстаў ад стала.

— Калі ня хочаце болей гуляць, дык пойдзем, вып'ем па чарцы — я плачу, — прапанаваў пан Паповіч.

Пайшлі: выпілі па аднэй чарцы, выпілі па другой, Паповіч, здаволены выйгрышам, быў вясёлы, а Шуляровіч маўчаў панура і піў чарку за чаркай. Але пасьля пятнаццатай ці дваццатай чаркі і ў яго развязаўся язык.

Скажэце, пане Паповіч,—азваўся ён,—як гэта вы мяне абыгралі? Шак я, кажучы паміж намі, спэцыялісты ад гульні ў карты, можна сказаць— гэтым толькі і жыву, і ўсе фокусы ведаю, а вы мяне абыгралі! Як гэта вы зрабілі?

Ведаю, мой галубочку, ведаю, сам бачыў: ты картачку перакідаеш, уся твая ўвага на тым, каб добра штучку сваю зрабіць, нічога вокам ня бачыш, а я сабе тымчасам нулік прыпісваю, вось і абыграў.

## ПАМІЖ ПРЫЯЦЕЛЯМІ.

— Я вось, люблю дзяўчат беленькіх, з васільковаымі вачамі, а табе, Сьцяпане, якія дзяўчаты больш падабаюцца?

— А мне падабаюцца тыя, якія маюць пасаг.

---

ўраджай дае рыж. Гароднікі — слаўны далёка сваімі гуркамі, памідорамі і цыбуляй. У садох растуць памаранцы і цытрыны. Апрача таго садаводы займаюцца гадоўляй рожаў, варункі росту каторых у ваколіцах Энзэлі вельмі добрыя. Рожы цьвітуць тамака амаль ня ўвесь год, нават і зімою, бо, як я казаў вышэй, зіма ў Энзэлі, дзякі блізкасьці мора, вельмі лёгкая, так што марозу ніколі ня бывае. Прыпамінаю адзін зімовы дзень у Энзэлі, калі разам з дажджом выпаў сьнег. Я прывітаў яго, як нешта роднае. Але ня так спаткаў яго Энзэлі. Нейкім няпрошаным гасьцём выглядаў ён на памаранцавых дрэвах, разаслаўшыся белым пухам па цёмна-зялёных лістох, паміж каторымі выглядалі жоўта-чырвоныя памаранцы, альбо па кустох рожаў, поўных кветак. І яму відаць неяк нялоўка было ў гэнай цёплай краіне ў кампані з зялёнымі лістамі і кветкамі, бо пачаў ён неяк корчыцца, малець і за хвіліну прапаў, ручайкамі вады сплыўшы на зямлю. Але варочаюся да рожаў. Іх у Энзэлі гадуюць садаводы не для свае прыемнасьці, а з мэтамі чыста гандлёвымі. З рожаў вырабляецца пахучы алей, вельмі цэнны матар'ял у пэрфумэрыі. Для адтрыманьня нязначнай колькасьці гэнага алею трэба зьнішчожыць цэлую масу гэтых прыгожых кветак і дзеля гэтага плянтацыі рожаў займаюць нярaз абшары некалькіх гэктараў.

Мне давялося адзін толькі раз быць на гэткай плянтацыі ў ваколіцах Энзэлі. Вельмі прыгожа выглядае ў косах сонца гэнае мора зелені, прыбранае мільёнамі буйных рознага колеру рожаў. Прыемны, далікатны пах ляціць ад іх далёка. Гэта ўсё культурныя рожы. Але і на волі, ў лясох і зарасьнях, паміж іншымі кустамі, вы ўсюды знойдзеце кусты дзікіх рожаў. Яны менш прыгожыя, чым іх культурныя сёстры, вырасшыя пад апекай чалавека, але ўсё-ж мала уступаюць гадаваным у нашым клімаце культурным гатункам. Так, не дарма Пэрсію называюць краінай рожаў! І вось, калі гэткім чынам ні-

# З вясной.

Зноў я надзею ў сабе адчуваю,
Зноў я вас, родныя ніўкі, вітаю
Днямі вясны залатой.

Край мой, усё што цябе руйнавала,
Вольна, свабодна цьвісьці не давала,—
Прэч хай адыдзе з зімой!

Вёсачка родная! годзі забытаю,
Ў цемры пахованай, плесьняй пакрытаю,
Зьдзекам для іншых служыць!

Лёс твой нядоляю быў абгароджаны;
Глянь, у палёх, болем сэрца народжаны,
Сум твой туманам ляжыць...

Ты ажыла ўжо, глядзіш, зварухнулася...
Дык не драмай-жа, хоць позна прачхнулася,
Ўсё-ж такі лепш, чым ніколі!

З гукам вясны, хай твой зык разьнясецца:
— Гэй вы, слухайце ў кім сэрца йшчэ б'ецца,
Выйшла я з вечнай патолі!

Вокны сталёвыя к сонцу прабіты.
Дык жыва да працы, сьвятла барацьбіты,
Сейбіты прышласьці яснай!

Кідайце сьмела магутнай рукою
Зернейкі шчасьця, жыцьця супакою
Ў глыбу цямноты сучаснай.

Сонца! з вышы паднябесься палацу,
Працу сьвятую, вялікую працу
Нашу, сагрэй, асьвяці!

Родны мой краю, прымі пажаданьні:
Пышнай красою цудоўнага раньня,
Вольнасьцю ты зацьвіці!

Сьмелай ступою на шлях адраджэньня,
Шлях з векавечнае цемры збаўленьня,
Цьвёрдаю стань ты нагой.

Ўсё, што жыцьцё тваё век руйнавала,
Вольна свабодна цьвісьці не давала —
Прэч хай адыдзе з зімой!...

*Мгхась Васілёк.*

# БОР.

Стаіць зялёны бор,
Шуміць таемна ён
І льецца аж да зор
Яго загадка - звон.

Ой, стары-ж, ён стары,
Стаіць вякоў ўжо рад.
Ад даўняе пары
Ён помніць надта шмат.

Калі прылегчы ў ім
І ўслухацца душой,
Ён шопатам сваім
Раскрые прад табой

Малюнкі прошлых дзён,
Тваіх дзядоў жыцьцё,
Пачуеш веча звон,
На'т сэрцаў іх біцьцё,

Бор слухаў ўсё ўсягды,
Лавіў ён кожны зык,
Прайшлі вякі - гады,
Іх помніць бор-старык.

Ён ў шопаце сваім
Успомніць стары час,
Шмат казак-праўды ў ім
Хаваецца для нас.

Дык ўслухайся душой,
Пяе ён песьню-звон;
І ўдумайся парой
У то, што скажа ён.

Напомніць бор падчас, —
Хто дзед твой? чый ты сын?
Кроў закіпіць ураз
І скажа: славянін!

Ой, помніць шмат наш бор,
Ён будзіць многа дум
І льецца аж да зор
Яго загадка - шум.

*Вітэблянін.*

---

зінныя прасторы Гіляну твораць адзін аграмадны горад, пераплецены астраўкамі садоў, дык стокі гораў, павернутыя да мора, твораць адзін бязупынны ланцуг вечна зялёных непраходных лясоў.

Падшытыя гусьцяром, перапутаныя нейкімі паўзучымі расьлінамі, лясы гэныя мала даступны чалавеку і толькі дзікі рысь і леапард гнязьдзіцца ў іх глыбі дый грамады птушак гуляюць на прывольлі ў цені зялёных вяліканаў. Духата страшная і парка ў гэных лясох, бо праз ıустую заслону дрэваў, праменьні амаль зусім не праходзяць. Як бачым, дзякі цяплыні і дастатку вільгаці, прырода не паскупіла там сваіх дароў. Але як пры гэткіх умовах жывецца там чалавеку, які уплыў мае гэны клімат на здароўе чалавека? Як сабе даюць пэрсы раду з гэным кліматам, добра ня ведаю, але эўропэйцу пераносіць яго вельмі цяжка, а асабліва ў гарачую пару, летам. Вільгаці тады ў паветры зьбіраецца гэтулькі, што чалавек ходзіць цэлы дзень, увесь спацеўшы, мокры, дыхае цяжка і няма куды падзецца ад цяплыні, бо ў цені таксама горача і душна. У нас, у гарачы дзень, калі выпіць вады, дык робіцца лягчэй, бо тады чалавек пачынае пацець, пот выпараецца ад цяпла і гэткім чынам халадзіць чалавека. У Энзэлі гэтулькі вільгаці ў паветры, што пот выпарвацца ня можа і дзеля гэтага чалавек усьцяж, быццам мяса, варыцца ў сваім поце. Вечар таксама мала прыносіць адпачынку. Толькі ўночы перад усходам сонца робіцца трошкі халадней, і тады вільгаць з паветра пачынае асядаць на шкле, на столі і адтуль каплямі падае на зямлю. Дадайце да ўсяго гэнага цэлую масу камароў і рознай машкары, якая пралезе ў найменшую шчылінку, ўваб'ецца ў кожны куток, каб пасьля напасьці на чалавека і кусаць і рабіць жыцьцё яго проста немагчымым — і тады толькі адтрымаеце паняцьце аб усёй роскашы Энзэлійскага жыцьця. Я проста чуў сябе нейкім хворым, разьбітым падчас быцьця ў Энзэлі ў часе летняй сьпякоты. Начамі амаль

## ГРУПА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ, СФАТАГРАФОВАНЫХ У МЕНСКУ Ў 1920 ГОДЗЕ.



Верхні рад зьлева направа: Краўцоў Макар, Альбэрт Паўловіч, Міхась Чарот, Ул. Галубок, Ю. Фарботка, Алесь Гарун (Аляксандар Прушынскі).
Ніжні рад: Ф. Аляхновіч, Зьмітрок Бядуля (Ясакар), А. Уласаў, Янка Купала.

ня спаў зусім. Змучаны, ўвесь мокры, качаешся бывала, з боку на бок па пасьцелі і здаецца ўжо прыходзіць чаканы сон, калі чуеш бзыканьне і раптам востры ўкол джала маленькага тырана, будзіць цябе зусім, а там ужо чутно бзыканьне цэлай грамады гэных крывапіўцаў. А пад раніцу, калі тыраны, напіўшыся крыві, трохі прыціхнуць — чуеш: кап, кап! Гэта са столі пачынае падаць дождж. Не, цяжка было жыць у тую пару ў Энзэлі, і ня ведаю, ці доўга я-бы тамака вытрымаў, але склалася так, што ўлетку я быў у Энзэлі толькі гасьцём. Але ня толькі цяплыню ды вільгаць цяжка пераносіць нашаму чалавеку! Горшая за іх хвароба—малярыя, якая страшэнна ніштчыць сілы чалавека. Перадаецца яна ад чалавека чалавеку камарамі. Камар, здаецца ня кожны, а толькі пэўны гатунак камара, калі ўкусіць чалавека хворага на малярыю, дык сам пачынае хварэць гэнай хваробай. І вось, калі такі хворы камар укусіць чалавека здаровага, дык той пачынае таксама хварэць. Праява хваробы палягае на тым, што ў пэўныя дні, альбо і гадзіны дня хворага пачынае трасьці трасца; яго кідае то ў жар, то ў холад, і тады ён увесь дрыжыць, і ляскае зубамі. Праз некалькі часу трасца праходзіць, чалавек быццам робіцца здаровым, толькі вельмі слабее. Праз нейкі час прыходзіць новы прыступ хваробы. Адзінае лякарства ад яе — хіна.

Цяпер, паночкі, зразумееце хіба, якая гэта прыемнасьць, калі пачуеш уночы бзыканьне няпрошанага гасьця. Што гэта за госьць ляціць да цябе: здаровы ці хворы? Ці толькі вып'ець з цябе каплечку крыві, ці можа ў джале сваім нясе табе страшную хваробу?

Мяне неяк абміналі яны, ці можа арганізм не падаваўся хваробе, але мой бедны Карапэтка хварэў, і хварэў цяжка.

Пэрсы на малярыю хварэюць таксама.

**Дзядзька Пранук.**

(*Працяг будзе*)

## „За нашую і вашую волю“.

Украінскі пасол Антон Васыньчук выступіў у „Głosie Prawdy“ з гэткім артыкулам аб патрэбах Украінцаў на землях Польскае Рэспублікі, які падаем тут у скарочаньні:

— У сучасных граніцах Польшчы знаходзіцца каля 7-х мільёнаў украінцаў, засяляючых у большасьці ўсходнія землі дзяржавы. Уплывы вялікіх гаспадарстваў і лёс шчасьця захацелі, каб 40 - мільённы народ украінскі не адтрымаў незалежнасьці, а рыскі трактат падзяліў яго на дзьве часьці.

7 мільёнаў, гэта лічба, якая раўняецца насяленьню Швэцыі, лічба, якая перавышае насяленьне Літвы, Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі, Даніі, Нарвэгіі, Баўгарыі; лічба народу, які мае сваю мову, прызнаную ўсімі Акадэміямі Навук, з асобнай рэлігіяй усходняга абраду, з асобнай культураю і старымі традыцыямі свабоды. Над гэткай украінскай лічбай народу ў Польшчы ня можна перайсьці да парадку дня.

Імкненьнем кожнага патрыёта - украінца ёсьць Незалежная Украіна.

Перажываем трагэдыю душы народу такую, якую і вы ў часе няволі маскоўскай перажывалі. Зьяўляемся лёяльнымі, як грамадзяне Польшчы, як народ — рэвалюцыйна настроены, заўсёды гатовы да бою за ідэалы незалежнасьці. Няма той сілы, якая ўстрымала-б разьвіцьцё гэтае думкі. Наступае пытаньне, ці разьвіцьцё ідэі незалежнасьці Украіны і удзел у ёй Польшчы, ёсьць спрэчны з інтарэсамі Польшчы? Ці гэтыя імкненьні павінны быць караныя, ці падтрымліваныя?

Гісторыя кажа нам, што перашкоды, робленыя народу вытвараюць ненавісьць, а помач у дасягненьні гэтых ідэалаў зьбліжае іх.

Імёны Касьцюшкі, Пулаўскага, Панятоўскага і іншых вашых правадыроў злучаюць вас з Францыяй, Амэрыкай, Італіяй; сяньня яны ёсьць вашымі прыяцелямі.

За вашую і нашую волю войскі ўваскросшай Украінскай Народнай Рэспублікі баранілі разам граніцы Польшчы ў вайне з бальшавікамі.

Незалежная Украіна, гэта пацыфікацыя Ўсходу, яе адсутнасьць, гэта вечная ірэдэнта, гэта вечная барацьба за ўплывы Польшчы з суседняю дзяржаваю. Сяньняшняя, больш як паўтары тысячы кілёмэтровая граніца ваша з Савецкай Расеяй вымагае бачнага сьцеражэньня, а ў разе супольнасьці інтарэсаў Польшчы і Незалежнай Украіны, павялічыла-б абароннасьць абедзьвюх дзяржаваў, гарантуючы мір незалежнай Польшчы, а багацьці зямлі украінскай знэўтралізавалі-б магчымасьць агрэсыўнай палітыкі расейскага народу.

Аднак сумляваюся, ці вы не адмовіліся ад гэтае ідэі, і ці народ украінскі можа спадзявацца ў межах Польшчы разьвіцьця сваіх гаспадарчых, культурных і палітычных правоў?

Нічога дзіўнага, што народ наш шукае шчасьця за рыскім мурам.

Толькі тэрыторыяльная аўтаномія створыць здаровыя настроі сярод нашага населеньня. Краёвы сойм, катораму павінны перадацца функцыі краёвага заканадаўства і наданьне права зацьверджаньня аўтаномнага бюджэту, пакліканьне краёвае адміністрацыі, утвараньне краёвых судоў, адасабленьне сярэдняга школьніцтва і стварэньне вышэйшага, ушанаваньне гонару і пачуцьця народу — гэта задачы тваё, Польская Дэмакратыя!

---

## ДЭФІЛЯДА БАЛЬШАВІКОЎ У БССР.

*(Гл. № 9 «Б.Д.»)*

А дырыжэрская палачка ў спрытных руках гэнэральнага сэкрэтара гэтак званае камуністычнае партыі Беларусі Крыніцкага — фактычнага ўладара Савецкай Беларусі, назначанага з Масквы. Парад можа адбывацца спакойна.

Дырыжэрскае вока Крыніцкага ўважна сочыць за „вялікімі“ фігурамі Ўсходняе Беларусі, а вуха яго таксама не драмае. І ведаючы гэта, сам „прэзыдэнт“ Чарвякоў стараецца дагадзіць начальству, патэтычна выпальваючы ў сваёй „троннай“ прамове гэткія словы:

„Савецкая Беларусь, таварышы, зьяўляецца непадзельнай часткай Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Гэтая наша сувязь узмацняе сілу Савецкага Саюзу і ў той самы час забясьпечвае магчымасьць разьвіцьця, а калі будзе патрэбна, то і абароны Савецкай Беларусі, як сувэрэннае дзяржавы рабочых і сялян“...

Як відаць, мала прышлося даведацца Чарвякову ў свой час з лаўкі настаўніцкае сэмінарыі, што такое за штука „сувэрэннасьць“, або забыўся ён, як вучыўся некалі, што „северо-западный край“ таксама быў „непадзельнаю часткаю“ Расеі і ўзмацняў сабою яе сілу. Сувэрэннасьць над гэтым „краем“ трымаў Петрагад, а цяпер Масква.

Аб гэтым сьведчыць Крыніцкі ў сваім „прывітаньні“ зусім ня стыдаючыся:

— „Мы павінны разьвіваць беларускую культуру і актыўна праводзіць беларусізацыю апарату. Што наша палітыка правідловая, сьведчыць тое, што па дакладу ўраду БССР сэсія ЦВК СССР адобрыла нашу працу“...

Установа, азначаная літарамі ЦВК СССР, — маскоўская і разглядае Беларусь, як сваю „непадзельную частку“. Ясна, што Чарвякоў зарапартаваўся крыху, заікаючыся аб нейкай там „сувэрэннасьці“ свае сатрапіі.

Ад беларускай літэратуры сьмешна было-б вымагаць беларусізацыі нават і з боку маскоўскіх уладароў. Ад нашых падсавецкіх пісьменьнікаў яны вымагаюць іншага. Мы гэтае вымаганьне назвалі-б бальшавізацыяй беларускае літэратуры. Гэтага, а ня іншага чаго, хоча ад яе старшыня савету народных камісараў БССР Адамовіч, калі, спыняючыся на літэра-

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Што, дзе і калі сеяць.

Вясна—найболей здрадлівая пара году. Старыя земляробы, якім няраз „марац адмарозіў палец“ з нявераю адносяцца да вельмі раньняе вясны. Яны кажуць, што бывае нават і гэткі май, што „валом дай, а сам на печ уцякай“. Маючы вялікае жыцьцёвае дасьведчаньне, яны занадта не гарачацца і ня кідаюцца да працы на полі раней, як трэба, а усё робяць, падумаўшы і з вялікаю развагаю.

Вельмі раньнія пасевы сустрачаюцца радчэй, бо пакуль зямля добра не абсохла, пакуль настолькі добра ня ўгрэецца, што басанож можна хадзіць за бараною, або культыватарам, а ў ботах цяжка, бо за іх чапляецца зямля і яны гразнуць, датуль нават найбольш гарачы земляроб ня выйдзе ў поле, а тым больш не пачне сеяць. Нажаль, шмат часьцей здараецца спозьненая сяўба, асабліва ў куртатых гаспадарках, якія, ня маючы ўласнага прыладзьдзя, мусяць чакаць, аж пакуль большыя гаспадары сваё аробяць. Горш, калі пасевы спозьнены ў нармальных гаспадарках па тэй прычыне, што альбо з восені зямля ня была, як трэба, выраблена, альбо ня было загадзя падрыхтавана насеньне, альбо проста па прычыне гаспадаровага апешаньня і нядбайнасьці. Вельмі часта дробныя гаспадары робяць памылкі пры сяўбе па прычыне „авечай пасьпешнасьці“. Досіць таго, каб адзін на вёсцы пачаў сяўбу, як за ім ужо ўсе яго суседзі робяць тое самае, ня гледзячы на тое, ці маюць гэтак-жа сама добра падрыхтаваную зямлю, ці грунт іх ня розьніцца часамі ад суседавага грунту палажэньнем, выхадам і г. д. Пры цераспалосіцы гэта можа быць яшчэ апраўдана, бо ўсе мусяць аднachasна зьбіраць з поля, каб пасьля жніва ня спасвалі спозьненага ўраджаю, але ў сцэленых гаспадарках кожны павінен кіравацца ўласным розумам, а не аглядацца на свайго суседа. Таксама нельга трымацца розных прыказак і забабонаў. Прыказка тады будзе мудраю, як яе мудра зразумеем, у праціўным выпадку можа быць так, як з тым дурным сынам, якому бацька ўміраючы наказваў мець заўсёды новыя боты, разумеючы пад гэтым, што іх трэба часта чысьціць, а ня купляць заўсёды новыя.

Авёс, напрыклад, любіць шмат вільгаці і лягчэй, як іншыя расьліны, зносіць яе лішку, але мы зрабілі-б блага, калі-б засеялі яго ў толькі што адышоўшую зямлю. Тым болей не сьпяшаймася сеяць авёс на халодных грунтох, цяжкіх, што маюць паўночны выхад, бо ў мала аграванай зямлі зерня ня будзе магчы хутка прарастаць, а нават можа і зусім не абыйсьці. На гэткіх грунтох лепш крыху спазьніць сяўбу і перад тым добра ачысьціць ад сьметнякоў, ужываючы звычайныя валачылы і нажовыя, бароны або культыватары, залежна ад таго, ў якім стане знаходзіцца зямля.

На лягчэйшых грунтох трэба сьпяшацца з сяўбою аўса, каб вызыскаць зімовую вільгаць, спозьнены пасеў можа ў тым выпадку быць згубным; калі абыходы трапляюць на засухі, якія ў траўні часта здараюцца. Няраз бывае, што ў гэтых варунках вельмі спозьнены пасеў дае лепшыя рэзультаты, чымся сярэдня спозьнены.

---

туры ў сваёй справаздачы, вартай назову прамовы мітынговага агітатара, разважае гэтак:

— „Таварышы, папросту запытацца, ці ёсьць у нас літэратура, па якой мы маглі-б судзіць, як жыве, як вядзе барацьбу з капіталістычнымі элемэнтамі, як разгортвае сваю працу рабочы і селянін у Савецкай Беларусі? Ці ёсьць літэратура, якая-б адбівала тое, як падрастае маладое пакаленьне, як вучацца піянэры (падчас яны вучацца, а падчас калечацца, бо іх прымушваюць прывітваць зьезды, а ў школах мала часу адводзяць для заняткаў), як выгадоўваецца камсамол? У нашай літэратуры вы нічога гэтага ня знойдзеце. Часы рэвалюцыі як быццам адрэзаны для беларускай літэратуры. Тое самае зьявішча ня толькі ў беларускай літэратуры, але і ў расейскай.

У нас няма добрага верша, апавяданьня аб жыцьці рабочых і сялян, аб будаўніцтве сав. дзяржавы, аб новым жыцьці, аб рэвалюцыі. Адбіткаў гэтых зьмен у літэратуры мала. Там больш апісваецца, як які-нібудзь поэт любіць якую-нібудзь дзяўчынку. За 25 кап. вы купляеце кніжку, якая „ні богу сьвечка, ні чорту качарга“. Назва „Табе“. Проста апісваюцца любоўныя эмоцыі. Я не кажу, што мы ўхіляемся ад усякіх эмоцыяў, але я кажу, што ў нашай літэратуры не хапае апісаньняў жыцьця Савецкай Беларусі. На гэтым я загострываю ўвагу, каб нас вызвалілі ад чытаньня „драбядзені“, калі ня могуць напісаць добра. У нас ёсьць шмат добрых літэратурных сіл: Янка Купала, Цішка Гартны, Чарот, Бядуля, многа з падрастаючага пакаленьня, з якіх добрыя таварышы Александровіч, Дубоўка, Крапіва, але гэта ўсё яшчэ не дае нам права, каб ад добрых таварышоў не патрабаваць, што сьлед.

Трэба зьвярнуць на літэратуру ўвагу па двух напрамках: з аднаго боку-даць больш падручнікаў для нашых школ, якіх вельмі мала, а з другога прымусіць апісаць будаўніцтва рабочых і сялян“...

Ад слова да слова мы падалі тут разважаньні старшыні менскага „совнаркому“ аб літэратуры, разважаньні вартыя параўнаньня з прамоваю разганяўшага ў 1917 годзе Ўсебеларускі Конгрэс начальніка бальшавіцкага гарнізону ў Менску Крывашэіна. У бальшавікоў, бач, соцыялістычная яшчэ й савецкая Беларуская Рэспубліка, але ёсьць недзе і капіталістычныя элемэнты, з якімі борuцца й дасюль сяляне ды рабочыя. Аб тым, што гэты капіталістычны элемэнт сядзіць у самой істоце бальшавіцкае ўлады, што лад іхні ні што іншае, як дзяржаўны капіталізм, паводле тэорыі самога Леніна, што буржуазная экслёатацыя рабочых і сялян цалком заменена ў СССР дзяржаваю і што дзяржава гэтая з усім яе бюракратычным апа-

У таспадарках сцэленых часта здараецца, што толькі на вясну гаспадар надумваецца, дзе што пасеяць. Тады на найгоршае месца пападае авёс і грэчка. Трэба помніць, што ніводнае расьліны, а тым болей свойскае, па натуры сваёй капрызнае, нельга ашукаць і абы чым задаволіць. Кожная з іх перш за ўсё вымагае добрае вырабы зямлі, а пасьля і адпаведнага гнаеньня. Авёс і грэчка найлепш выкарыстоўвае кармавыя складнікі, якія знаходзяцца ў грунце і дае сабе раду нават і ў такіх месцах, як пасьля каласовыя, праз некалькі гадоў пасьля гною, але ня зносіць благое мэханічнае вырабы і засьмечаньня. Дык і нельга аўса і грэчкі кідаць абы дзе; нават і лубін гэтага ня любіць, бо як пападзе на запыраную зямлю, дык сам яшчэ больш яе запырыць, а авёс і грэчка, калі пападзе на рапуху (дзікую рэдзьку), дык заўсёды ўступае ёй сваё месца. Такім спосабам імсьцяцца гэтыя расьліны за абы якое трактаваньне іх.

Апрача добрае мэханічнае вырабы, трэба помніць аб якасьці насеньня і добрым ачышчаньні яго. Веяньне было добрае тады, калі чалавек навучыўся рабіць веялку і пакінуў карыстацца жменяю. Цяпер ёсьць арфы, млінкі, трыеры, зьмейкі, якія даюць настолькі чыстае і адборнае збожжа, як быццам яно было перабрана рукамі. Ёсьць ведама, што разам з тым трэба дбаць аб добрым гатунку, які асабліва падходзіць да данага клімату і данага грунту, які ад часу да часу трэба аднаўляць, бо з часам ён вырадзжаецца.

Тут на аднаўляньне або на набыцьцё новага добрага гатунку ня трэба шкадаваць грошай, бо гэта заўсёды аплаціцца.

(Канец будзе).

# Гаспадарчыя парады.

## Апрацоўка папару.

### Заняты папар.

Куды выгаднейшы за сялянскі папар—папар заняты вікай з аўсом. Поле апрацоўваецца, як і пад чорны папар. Гной даецца або ўвосень, або рана ўвесну. На такім папары сеюць віку з аўсом, па 6 пудоў на дзесяціну таго і другога. Сумесь гэту можна або паступова скормліваць жывёлай, або даць ёй вырасьці і скасіць, калі авёс пачне каласіцца, а віка зацьвіце. У пачатку ліпня віка і аўсяная сумесь павінна быць сабрана, пасьля чаго поле ўзьнімаецца, а праз тыдзень-паўтара аруць на поўную глыбіню. Спробы паказалі, што на такім занятым папары ўраджаі жыта адтрымліваюцца ўсё-такі большыя, чымся на позьнім сялянскім папары, ды апрача таго, будзе яшчэ 200—250 пудоў добрага сена.

Можна садзіць у такім папары і бульбу. Тады трэба рана вясною на папарнае поле вывезьці гною з разьліку 2 тысячы 400 пуд. на дзесяціну. Вывезены гной зараз-жа разьбіваецца і тут-жа заворваецца. Пасьля садзіцца бульба на 10 вяршкоў рад ад раду і 5 вяршкоў у радох адна ад другое. Яна садзіцца на глыбіню $1^{1}/_{2}$ вяршка.

На папары звычайна сеецца раньні сорт бульбы (скорасьпейка, варшаўка). Бульбы дробнай і сярэдняй на дзесяціну высяваецца 100—110 пудоў.

### Сялянскі папар.

Галоўнае палепшаньне, якое селянін можа ўжыць пры трохпалёўцы, гэта апрацоўка, як сьлед, папару. Сялянскі папар зьяўляецца прычынай дрэнных ура-

ратам зьяўляецца найстрашнейшым для працоўнага народу капіталістым, — аб усім гэтым Адамовіч нават і не заікаецца сказаць. Піянэры там ня вучацца, а калечацца... Літэратары ня твораць гымнаў дзяржаўна-капіталістычнаму ладу бальшавікоў, дык іх трэба прымусіць да гэтага... Бо дасюль уся беларуская літэратура, кажучы памаскоўску—дребедень...

Да прымушаньня літэратараў сьпяваць гымны панаваўшаму ладу не дагаварваўся нават ніводзін менскі губэрнатар у царскія часы, а расейская літэратура толькі й ведае аднаго Загорецкого з „Горя от ума“, які ніяк ня мог зразумець, чаму гэта аўторы „смеются все над львами, над орлами“, бо яны ўсё-ж такі: „кто что ни говори — хоть звери, а цари“...

Ну, але нашчасьце тагочасных расейскіх аўтараў Загорецкий нябыў гэткаю важнаю шышкаю, якою ёсьць цяпер для беларускіх пісьменьнікаў Адамовіч!

Той самы, хоць і ў іншай форме, пагляд на літэратуру выказаў Адамовічаў падручны—нар. камісар асьветы Баліцкі ў сваёй справаздачы, дадаўшы толькі, што ў нацыянальнай палітыцы ён будзе бароцца з „нацыяналістычнымі ўхіламі і нацыянальна-дэмакратычнымі сьветапаглядамі“.

Адным словам: няхай жыве бальшавіцкая охлёкратыя (улада чэрні); а якая там чорная цемра даведваемся з голых, паданых Баліцкім цыфраў аб няпісьменнасьці, паводле статыстыкі 1920 году. Гэтак, на 1000 душ у БССР прыходзіцца 673 няпісьменных, у РСФСР—603, ў Украіне—584. Выходзіць, што найцямнейшы куток у б. Расеі — Беларусь. Дык чаму-ж там нельга паном палажэньня заняцца пролетарызацыяй, індустрыялізацыяй, дыктатурай міфічнага ў адсталай, як сам Баліцкі кажа, земляробскай краіне пролетарыяту і нават предписыванием яе літэратарам, што і як яны павінны пісаць, каб падабацца, скажам, дыктатару Крыніцкаму!

Трудна з нацыянальнаю культураю, калі сам Баліцкі неўмалімымі цыфрамі сьведчыць на зьезьдзе, што:

— „Да гэтага часу беларусізаваны ўсе 4—гадавыя і 7-гадавыя школы ў БССР да яе першага пашырэньня“...

Значыцца-ў 6-х былых паветах Меншчыны?!

„ВУЗ'ы беларусізованы на 17,5 проц., тэхнікумы пэдагогічныя цалком, а ў сельска-гаспадарых—адзін год навучаньня.

джаяў азімае збажыны. З папару, які апрацованы правільна, можна мець дубальтовы ўраджай.

Сялянскі папар моцна зарастае зельлем, моцна сьсядаецца і высушваецца жывёлай. Пры позьняй апрацоўцы такога папару, арэцца крыгамі і надаць ёй патрэбны стан вельмі цяжка. Гной возіцца ў папар вельмі позна і не пасьпявае згніць.

Чым раней на зяб або на папар арэш, тым большы ўраджай збажыны зьбярэш.

### Як даглядаць маладых парасят.

Часта можна чуць ад некаторых сялян, што пасьля таго, як апаросіцца сьвіньня, гіне шмат парасят.

Звычайна сяляне гэта тлумачаць тым, што сьвіньня была куплена з „нядобрых" рук. Справа ня ў гэтым.

Ад нашых простых сьвіней парасяты большаю часткай родзяцца з вялікімі і вельмі вострымі клычкамі. У кожнага парасяці іх бывае ад 4-х да 8-х. Калі парасяты пачнуць ужо ссаць матку, то яны вельмі валтузяцца, штурхаюцць і сваімі клыкамі колюць і рвуць цыцкі. Сьвіньня нейкі час цэрпіць, стогне, а пасьля пачынае ўсхопліватца і ўцякаць ад парасят. А калі парасяты стануць прыставаць, то яна іх са злосьці проста разрывае і есьць. Тыя парасяты, што застаюцца цэлымі, худзеюць і слабеюць з голаду, а то проста гінуць. Вось з гэтага можна заўважыць, што цяжкая рука тут ні пры чым.

Рада ад гэтага простая. Як толькі родзяцца парасяты, патрэбна зараз-жа абглядзець у іх зубы. Калі ў парасят ёсьць вострыя клыкі, то трэба ўзяць звычайныя ножніцы альбо вострыя абцужкі і хораша адшчыкнуць іх роўна дзёснаў. Пасьля гэтага парасяты цыцак у маткі ня колюць, яна спакойна даецца ім ссаць. Парасяты хутка растуць і ўсе застаюцца жывымі. Апрача гэтага, ня шкодзіць часьцей наглядаць у першыя 2-3 дні, каб сьвіньня, часамі, нехаця не прыдушыла парасят. Асабліва душаць парасят вялікія і клустыя сьвіньні.

### Віка яравая.

Віка яравая — лепшы корм для жывёлы. Віку можна высяваць у яравым кліне, а так сама і ў папары. Выгадней віку сеяць у папары, да пасеву жыта. У гэтым выпадку пад віку трэба рана вясной, або нават раней, увосень, вывезьці гной.

На дзесяціну, у сярэднім ліку, у нас высяваюць 8 пудоў вікі і 4 пуды аўса. На лёгкай зямлі колькасьць вікі памяншаецца, а аўса павялічваецца. На цяжкай зямлі наадварот.

Насеньне вікі любіць вільгаць, таму трэба яго глыбока забаронваць. Пасьля пасеву поле добра ўкатаць гладкім катком, гэта палегчыць уборку вікі, а галоўнае, скошаная трава не запыльваецца.

З дзесяціны зьбіраюць ад 160 да 300 п. сена з вікі. Калі віка — аўсяная сумесь высяваецца у папары, то пасьля ўборкі вікі поле трэба ў той-жа дзень заараць, каб поле не высыхала. Калі віка—аўсяная сумесь высяваецца не ў папары, а ў яравым кліне або на прысядзібных вучастках, то ў такім выпадку, пасьля папарнага ўкосу вікі, можна поле заараць і другі раз пасеяць віку; у гэтым выпадку прыдзецца карыстацца, галоўным чынам, ня сенам, а сырой масай.

Практыка паказвае, што ў гэтым выпадку другі пасеў дае на дзесяціну да 1000 п. сырой масы (асабліва калі да сумесі прыбавіць адзін пуд насеньня грэчкі, а авёс замяніць ячменем, які хутка расьце).

---

Трудна тут натхняцца літэратарам, калі ня сьвісьне над вухам совнаркомаўская нагайка.

А як Масква шчодрыцца на досьледы ў галіне галоўнага занятку жыхароў Беларусі—сельскае гаспадаркі, аб гэтым даведваемся з некаторых параўнаньняў, выказаных Г. Гарэцкім — дырэктарам навукова-дасьледчага інстытуту сельскай і лясной гаспадаркі імя Леніна—падчас спрэчак па дакладу нар. камісара земляробства Прышчэпава.

— „Раз Беларуская Рэспубліка мае самую інтэнсыўную сельскую гаспадарку, — разважае Гарэцкі, — то і дасьледчая праца ў ёй павінна быць пастаўлена на большую вышыню, чым у другіх рэспубліках нашага Саюзу"...

Ці зьяўляецца яна інтэнсыўнаю ў Беларусі?

— „Перш пачнём з грошай,— кажа Гарэцкі,—з кожнай сотні рублёў, якая траціцца на сельскую і лясную гаспадарку, на дасьледчую працу ідзе толькі 68 капеек, а на Украіне 1 р. 78 к., г. зн. у тры разы болей. З кожнай сотні рублёў Наркамзямам РСФСР (Маскоўшчыны—Рэд.) траціцца на дасьледчую працу 7 рублёў 60 капеек, а ў Беларусі 1 р. 30 к., значыць у шэсьць разоў меней. Вы бачыце адсталасьць Беларускай Рэспублікі. Дасьледаваценяў у нас у дасьледчых станцыях толькі 130 чал., на Украіне 1731 чал., у РСФСР — 3.380 ч., гэта значыць, што на Беларусі менш дасьледавацеляў у 14 разоў, чым на Украіне, тады як насельніцтва ў нашай рэспубліцы менш толькі ў 5 разоў" ..

Як чуецца сялянства ў БССР найлепей відаць з кароценькіх дэлегацкіх выступленьняў, а не з рэвэляцыяў нар. камісара Прышчэпава аб нейкіх усё дасягненьнях. Гэтак, напрыклад, дэлегатка з Магілёўскае акругі Бабнікава жаліцца:

— „З дакладу тав. Прышчэпава нам стала ясна, што трэ' падымаць сельскую гаспадарку, але як гэта наладзіць? Напрыклад, вёска магілёўскай акругі вельмі бедная. Таварыш Чарвякоў некалькі разоў прыяжджаў, дык ён і сам бачыў, якая бедная вёска ў нас. Трэба, каб наш урад зьвярнуў больш увагі і хутчэй правеў зямляўпарадкаваньне, бо наша вёска ня мае чым жыць. У нас такая зямля, што зусім ня родзіць. А пахаць прыходзіцца ехаць за 5 вёрст".

А сялянка Кузянкова з Калініншчыны досіць такі проста малюе сваё жыцьцё:

— Нашы дзеці сядзяць яшчэ на печы, ня вучацца і нічога ня ведаюць таму, што ў нас няма ніякіх сіл, ніякіх сродкаў, каб вучыць сваіх дзяцей. Калі мы маем тры дзесяціны зямлі, а восем душ сям'і, дык мы нічога ня зможам для вучэньня зрабіць. Што нам рабіць? Ці перайсьці на шматпольле, ці што-небудзь іншае рабіць? Тут думай, ня думай, на гэткай гаспадарцы нічога не зробіш"...

Але бедная сялянка можа ня трывожыцца. Ада-

## Куток для мацярок.

ДОКТАР РАВІЧ.

### Аб кармленьні навароджанага.

Ужо ведаем, якую падмогу і апеку дастаўляюць жанчынам парадні ў апошнія месяцы цяжарнасьці і ў часе полагу. Але ня меншае апекі патрабуе й дзіця, якое прыходзіць на сьвет, або гэтак званы навароджаны.

Гэта істота зусім бязрадная, бо калі, напрыклад, куранё, якое выклевалася з яйка, ў хуткім часе пасьля ходзіць і дзяўбе мягкія крошкі, калі кацяня або шчанё само падсоўваецца да матчыных грудзей і хапаецца за цыцку, — дык навароджаны без падмогі маці існаваць ня можа. Трэба шмат умеласьці і стараньняў, каб яго прылажыць да грудзей, трэба цярпліва чакаць, пакуль яму ўдасца абняць губамі вяршок і пачаць ссаць. Матчыныя грудзі ў гэтым часе няшмат яму даюць, бо звычайна набіраюць корму ў канцы другое ці ў пачатку трэцяе пары. Аднак-жа прыстаўляць дзіця да грудзей трэба раней—ужо праз шэсьць, а найпазней праз 12 гадзін па нараджэньні, таму што спробы ссаньня пабуджаюць грудзі да хутчэйшага выдзяленьня корму. Першы корм адрозьніваецца ад пазьнейшага сваім выглядам: ён густы і жоўты—яго завуць малодзівам. Гэтае малодзіва мае вялікую кармільную вартасьць і дзеля гэтага, хоць і мала бывае яго ў пачатку, але для навароджанага яно мае паважнае значэньне. Апрача малодзіва можна даваць яшчэ лыжачкамі і пераваранўю, летнюю ваду, найлепш бяз ніякіх дадаткаў (бяз цукру), бо вада таксама вельмі патрэбна навароджанаму. Да грудзей трэба прыстаўляць праз кожныя дзьве гадзіны, хоць-бы сабе і здавалася, што дзіця нічога з гэтых грудзей не выцягае. У гэты час можна прыстаўляць дзіця кожны раз да абодвух бакоў грудзей, а ад часу прыплыву большае колькасьці корму, падаём ужо грудзі заўсёды пачарзе: раз правы бок, другі раз левы.

Маладыя мацяркі звычайна вельмі нецярплівыя і ім здаецца, што яны ня змогуць карміць, калі корм не зьяўляецца адразу. Гэта — памылка, якая можа зашкодзіць далейшаму кармленьню. Ня трэба адбіваць у дзіцяці ахвоты да грудзей, калі-б нават набіраньне корму і спазьнялася да 4 і 5 дзён. Калі корму і сапраўды мала, дык можна, апрача вады, даваць дзіцяці і малако. Найлепш тады дастаць корм ад іншае жанчыны, таму што жаночае малако заўсёды будзе лепшым за каровячае. У крайнім выпадку даём і каровячае малако: ў працягу першых дзесяцёх дзён даём трэцюю часьць малака і два разы столькі вады з цукрам (напр. 1 сталовая лыжка малака, 2 лыжкі вады, паўлыжачкі цукру — ад 7 да 8 разоў на пару); ад 11 дня жыцьця даём малако напалову з вадою і, павялічваючы колькасьць малака, падаўжаем перарывы паміж адным і другім кармленьнем. Важная рэч, каб з пачатку прывучыць дзіця да даўжэйшага начнога перарыву, бо гэтым спосабам і маці і дзіцяці запэўняем бесьперарыўны сон і неабходны адпачынак.

(„Kultura").

---

мовіч на дэмагогію майстар вялікі і ён гатоў падзяліцца ўладаю нават і з вясковымі бабамі, робячы іх, ня гледзячы на тое, што пісаць яны ня ўмеюць, старшынямі сельскіх саветаў і райвыканкомаў. Вось як ён трэліць аб гэтым:

— „Трэба паставіць і жанчыну на належнае месца, а ня трымаць яе каля кухні. Няхай працуе старшынёй сельсавету, райвыканкому. Калі спачатку яна ня сумее пісаць, дык мы пісара пасадзім і грошы дадзім, але навучым яе працаваць"...

На мінуту маскоўскі назначэнец у Менску забывае, што на тыя 600 тысяч безработных, якія ня маюць чаго рабіць на вёсцы, ня хопіць ні сельсаветаў ні розных там выканкомаў.

Старшыня менскіх камісараў сам-жа прызнаецца аб гэткім стане беспрацоўя ў часьці свае справаздачы аб індустрыялізацыі БССР.:

„... беспрацоўных, кажа ён,—33 тыс. чалавек (гэта ў горадзе—Рэд.), а ў вёсках 600.000, якія маглі-б працаваць у гарадох, таму што яны ня маюць ніякае працы ў вёсцы. Але толькі праз індустрыялізацыю ў бліжэйшыя пяць год мы ня зможам зьліквідаваць беспрацоўе ў горадзе і на вёсцы, хоць і перaселім тысячаў каля 300 сялян у іншыя краіны"...

Аб усёй гэтай дэфілядзе бальшавіцкіх сіл у Менску можна напісаць цэлы том, але мы абмяжуемся тым, што тут удалося занатаваць, каб чытачы нашыя ня строілі лішніх ілюзіяў аб нейкай незалежнай Беларускай рэспубліцы ў Менску, дзе нібыто сяляне ды работнікі маюць уладу. Улада там у руках расейскае кампартыі, якая нават і маладую літэратуру беларускую хоча спролетарызаваць, хаця кожнаму разумнаму чалавеку вядома, што пролетарскую культуру і літэратуру можа тварыць толькі той край, дзе ёсьць дужы арганізованы пролетарыят. Дзе-ж гэты пролетарыят у земляробскай, сялянскай Беларусі?

Праўда, яны налічваюць у БССР 21.480 батракоў. Але як-жа гэта разумець: у соцыялістычнай рэспубліцы дый раптам батрацтва?!

Нам думаецца, што ў цыфры гэтай бальшавікі крыху памыліліся, бо яна куды большая: панамі палажэньня там партыйцы-камуністыя, а рэшта насяленьня— гэта ўсё іхнія батракі: батракі-сяляне, батракі-рабочыя, зарабляючы ў сярэднім 25 рублёў у месяц, батракі нават і літэратары, якія павінны пісаць так, як ім загадае начальства.

(Канец). *Незалежнік.*

## У справе М. Тулейкі.

Паводлуг вестак, адтрыманых рэдакцыяй, у справе паняверкі студэнта беларуса М. Тулейкі, аб якой мы пісалі у № 9 „Бел. Дня", па наказу Наваградзкага ваяводы пана Бэчковіча вядзецца следзтва. Мы глыбока пракананы, што яно выявіць вінаватых і яны панясуць заслужаную кару. У гэтым прakананьні ўмацоўвае нас той факт, што за час свайго яшчэ нядаўнага праўленьня наваградзкім ваяводзтвам, пан Бэчковіч патрапіў здабыць сабе прыхільнасьць усяго мясцовага беларускага грамадзянства і цяпер патрапіць дашукацца праўды і вырваць з коранем гэнае атрутнае зельле, якое, як пержытак мінулых дзён, дзён адміністрацыйнай гульні і зьдзеку, узгадованых у душным паветры зоолёгічнага шовінізму, засталося і дагэтуль расло далёка ад яго гаспадарчага вока ў цёмным кутку Баранавіцкага адміністрацыйнага апарату.

## Корэспондэнцыі.

### Культурна-прасьветная праца ў Браслаўшчыне.

Як і ўсюды ў нашай дарагой Бацькаўшчыне Беларусі, так і ў нашай Браслаўшчыне шмат хто зразумеў, што канец прыйшоў цемнаце, п'янству ды разбойніцтву і пачалі тварыць гурткі асьветныя ды іншыя. Проста сказаць, сталі перараджацца. Цяпер у якой-небудзь хаце, дзе перад гэтым старшыя сяляне ігралі вечарамі альбо сьвяточнымі днямі ў карты ды пілі гарэлку, сабраўшыся гутараць аб тым, як палепшыць гаспадарку, як выгадаваць добрую жывёліну, як выкарыстаць папар, каб не марнаваўся так, як марнаваўся ў бацькоў і дзядоў.

Цяпер моладзь, замест марнаваць сваё маладое жыцьцё, п'ючы гарэлку, імкнэцца да працы прасьветна-культурнай, ладзіць спэктаклі — вечарыны, бо большасьць моладзі зразумела, што толькі здабыўшы асьвету і заняўшыся культурнай працай здабудзем для сябе лепшы лёс, лепшае жыцьцё, якім жывуць іншыя народы, як Чэхі, Немцы і інш.

А здабываць асьвету і працаваць над падняцьцем і разьвіцьцём роднай культуры павінна моладзь перш за ўсё ў беларускіх культурна-прасьветных гуртках.

Ува ўсёй Браслаўшчыне, рэдка можна сустрэць дзе-небудзь вёску, каб у ёй ня было прасьветнага гуртка. Нічога дзіўнага, што ў Браслаўшчыне цяпер стала зусім мала п'янстваў і другіх брыдкіх рэчаў.

Магу сьмела сказаць, што ў Браслаўшчыне прасьветна-культурная праца ідзець наперад даволі шыбка. І гэта павінна быць прыкладам, для іншых.

*Зыдар Зарак.*

### З Горадзеншчыны.

Гэтымі днямі ў в. Астрава, Азёрскае воласьці зьявіўся „przodownik" паліцыі, Азёрскага пастарунку з двама паліцыянтамі і зрабілі ў хаце грам. А. Ушкевіча вобыск. У выніку гэтага знайшлі і забралі ўсе нумары газэтаў „Беларускі Дзень", „Сялянская Ніва" ды іншых беларускіх часопісаў. Просім надрукаваць гэта у Вашай паважанай газэце, каб хто трэба зьвярнуў увагу на гэны факт, бо мы добра ведаем, што няма ніякае забароны выпісываць і чытаць беларускія часопісі.

*Праўдзівы.*

## МОВА.

(Голас з вёскі).

На абшары нашае Бацькаўшчыны яшчэ многа-многа ёсьць такіх людзей, якія не навучыліся кахаць і шанаваць свае роднай мовы. Найбольшымі віноўнікамі гэтага сумнага зьявішча зьяўляюцца тыя жыцьцёвыя і гістарычныя абставіны і варункі, якія спрыялі таму, што мы з маленства вучыліся гаварыць або парасейску, або папольску. Гэтыя-ж абставіны змушалі нас здрадзіць роднай матчынай мове дзеля чужацкае, скажу больш: змушалі ненавідзець яе і пакахаць чужую. Змусілі нас лічыць сваю мову — моваю „простай", „мужыцкай", „хамскай". З цягам стагодзьдзяў у нашым народзе, які ніколі ня чуў, каб хтосьць з паноў ці ўрадоўцаў гаварыў пабеларуску, ўкаранілася пераканаьне, што мова наша запраўды-ж ёсьць моваю мужыцкаю, бо толькі-ж мужык-селянін на ёй і говорыць. І пачаў народ сароміцца і чурацца свае мовы. Ня толькі тыя інтэлігенты і поўінтэлігенты, якія выходзілі з шэрае вёскі, але-ж і ў апошнія часы маладзейшае пакаленьне вёскі саромілася беларускасьці і якмага старалася гаварыць парасейску, або папольску. Сорамна было сьпяваць ім свае песьні „мужыцкія".

Ў апошнія паваенныя часы сьвядомасьць нацыянальная сярод сялянства зрабіла вялізарны крок уперад. Нацыянальнае пачуцьцё ўзрасло высока. Можна з пераканаьнем сказаць, што за вельмі малым выняткам, калі запытаюць у нашага селяніна: „Хто ты?", дык ён ня скажа як калісь: «Русскій» або «Polak», — але-ж з глыбокім пераканаьнем скажа — «Беларус». Гэта зьяўляецца вельмі паважным заваяваньнем у беларускім адраджэнскім руху.

Аднак-жа, поруч з гэтым мы бачым усё-ж такі, што ня ўсюды і ня ўсе яшчэ гавораць пабеларуску. Ня буду гаварыць аб сялянах, якія, быўшы ў Расеі, мусілі гаварыць толькі парасейску і, вярнуўшыся на бацькаўшчыну, яшчэ ў сілу прызвычаеньня, ня могуць забыцца і калі гдзесьць трэба штосьць важнейшага сказаць, дык ужываюць расейшчыну. На вёсках у шмат якіх месцах яшчэ пяюць прывезеныя расейскія песьні і польскія, прынесеныя з казармы.

Абавязкам кожнага сьвядомага беларуса інтэлігэнта на вёсцы — якнайбольш старацца прывучаць сялянства сваім прыкладам гаварыць усюды толькі пабеларуску, пяяць толькі беларускія песьні, бо толькі гэтакім спосабам можна здабыць пашану да свае мовы ад другіх. Трэба на-сам-перад самому пакахаць сваю мову, шанаваць яе ўсюды і тагды іншыя ўшануюць яе.

Чаму-ж наш цёмны селянін, прыходзячы да якога-колечы ўраду, стараецца гаварыць або папольску, або парасейску, абы толькі не пабеларуску. Ён-жа мае „Ustawy językowe" — здаецца і карыстаўся-б з іх і ўсюды, дзе яму трэба, зварочваўся-б пасвойму. Каб увесь беларускі народ пачаў толькі гаварыць і пісаць пабеларуску ўсюды, дзе-б ён ні зьвяртаўся, дык тагды ўрад змушаны быў-бы лічыцца з нашаю моваю. Але-ж, нажаль гэта ня робіцца.

А чаму? — Ды ясна! Нашае сялянства жыве ў такіх варунках, што ўсюды толькі просіць, а калі трэба прасіць, дык, як кажуць „і пасабачаму пабрашу, абы добра было".

Нажаль ня ўсе нашыя інтэлігенты сумленна спаўняюць свой грамадзкі абавязак. Шмат і цяпер ёсьць такіх суб'ектаў, якія дзеля асабістых выгад забываюцца свае роднае мовы. Не магу абмінуць, каб ня ўспомніць вельмі характарнага зда-

рэньня з адным маім знаёмым, якога ўперад я знаў, як беларуса. Спатыкаю яго на кірмашы і, што за дзіва, гаворыць да мяне папольску, ды так няўмеючы, што мяне аж сьмех узяў. На маё пытаньне, чаму гаворыць папольску, ён тлумачыць: „że tu miejsce publiczne, a mowa polska jest państwowa"... і г. д. Вельмі зьдзіўлены, я адышоў ад яго. Потым ужо я даведаўся, што гэты панок спадзяецца пры пратэкцыі якогасьць абшарніка дастаць пасаду. Адначасна прыпомніўся мне адзін вобраз з жыцьця ў дэнікінскай белай арміі, калі Дэнікін пад канец свайго існаваньня надаваў званьне „казака" усім татарам-ахвотнікам, якія служылі ў яго войску. Гэтыя татары — „казакі" вельмі насіліся з гэтым новым палажэньнем і нават паміж сабою гаварылі толькі парасейску, ломячы гэную мову як-мага і ледзь-ледзь разумеючы адзін аднаго. Вялічалі яны сябе „нóві кóзак".—І ты — „нóві кóзак", — падумаў я пра свайго знаёмага, — і многа вас яшчэ такіх!

Мусім з вялікаю прыкрасьцю прызнацца, што і сярод сьвядомейшых інтэлігентаў - беларусаў, сярод працаўнікоў на ніве нашага адраджэнскага руху, беларуская мова частагуста моцна кульгаець. Вельмі мала прыходзіцца спатыкаць такіх, якія дасканальна гавораць пабеларуску. Адгаворка звычайна тая, што яшчэ не навучыліся добра гаварыць, яшчэ сказваецца яго расейскае выхаваньне і г. д. Але-ж гэтае апраўданьне вельмі нязначнае. Усе гэтыя перашкоды лёгка можна ўхіліць, толькі трэба моцна кахаць сваю родную мову, трэба шчыра шанаваць яе. Гэтыя два найвялікшыя пачуцьці будуць найлепшым спосабам. Якое-б выхаваньне чалавек ні адтрымаў, але-ж кроў павінна сказацца ў ём.

Зьяўляючыся да сялянскае гушчы з мэтаю адраджэнскае працы, мы павінны цяпер перш-на-перш вельмі добра самі ведаць сваю мову. Сучаснае ўжо, ў параўнаньні, добра сьвядомае сялянства тонка прыкмеціць нашыя недастачы ў мове і ператалмачыць іх пасвойму, а ворагі нашыя добра скарыстаюць з гэтага і, паказваючы на нас пальцамі, скажуць: „беларус, а ня ведае беларускае мовы".

Самаю галоўнаю рэччу ёсьць тое, каб паказаць ім іхжа мову ўва ўсёй яе прыгожасьці, навучыць народ кахаць сваю спаняверану мову, цаніць і шанаваць яе. Заахвоціць яго—яго-ж уласнай песьняй-скарбам. Зацікавіць усім і навучыць любіць усё, што ёсьць беларускае, бо яно сваё, роднае. Тагды толькі зацьвіць наша дарагая нашаму сэрцу мова і будзе мець павагу сярод іншых, бо „займе свой пачэсны пасад між славянамі"...

А. Кулька.

# Аб усім патроху.

## Страхоўка ад дажджу.

Нямецкае страхавое таварыства стварыла новую галіну прамысловасьці і новую крыніцу даходаў.

Вось-жа страхаваць будуць усіх урадоўцаў і людзей занятых, каторыя, выехаўшы на „зялёную траўку", не маглі з прычыны дажджу выкарыстаць, як трэба сваіх вакацыяў. У такіх выпадках таварыства будзе зьвяртаць кошты падарожы і няўдачы пабыту на дачы пакрыўджаным.

Таксама і прадпрыемцы, каторыя ладзяць прадстаўленьні на вольным паветры, будуць магчы застрахаваць сябе ад рызыкі, якая вынікае з дрэннае пагоды.

## Залатая Вэнэра у Канстантынопалі.

У Стамбуле ангельская археолёгічная экспэдыцыя знайшла візантыйскую скрыню, якая месьціць вялікі лік каштоўнасьцяў.

Між іншымі каштоўнасьцямі знаходзіцца скульптура ў золаце статуйкі Вэнэры.

## Колькі цяплыні мае чалавек?

Найніжэйшая цяплыня цела, заўважаная ў жывога чалавека 28°. Сабакі і кролікі (трусы) здыхаюць, калі цяплыня іхняга цела спадзе да 19°.

## Гэніяльны юнак-матэматык у СССР.

М. М. Назараву ў сучасны момант 18 год.

У 1919 г. ён прашоў самавучкай, у адзін году увесь курс працоўнай школы 1-й і 2-й ступені і 10-год ад роду падаў заяву аб прыёме на матэматычнае аддзяленьне Дзярж. Сярэдня-Азіяцкага Унівэрсытэту. Праўленьне унівэрсытэту адмовіла „младзенцу" ў прыёме, затым дапусьціла да здачы экзаменаў у якасьці вольнага слухача. Яскравыя матэматычныя здольнасьці Назарава адразу зьвярнулі на сябе ўвагу прафэсароў і ў верасьні 1920 году ён быў залічаны ў лік студэнтаў Унівэрсытэту.

11-ці годні студэнт адразу пачынае самастойную навуковую працу.

13-ці год ён прадстаўляе ў факультэт навуковую працу: „Приближенные вычисления кратных определенных интэрвалов", у якой разьвязвае цэлы рад складаных матэматычных пытаньняў, якія ня вырашаны вялікімі матэматыкамі Якобі, Гаўсалі і інш.

У бягучым 1927 годзе Дзяржаўны Вучоны Савет разглядаў працы 18-цігодняга вучонага і канстантуе „фэномэнальныя здольнасьці і эрудыцыю" (колькасьць ведаў юнака) і назначае М. М. Назарава на матэматычную катэдру Ташкенцкага Унівэрсытэту.

Па думцы профэсароў, у асобе дзіўнага юнака ўзрастае ўсясьветны гэній. Калі ўлічыць ўзрост вучонага, дык зьявішча гэта не паўтаралася ўжо 300 год з 1601 г. — год нараджэньня выдатнейшага матэтыка Фэрмата, даўшага навуцы сваю асноўную працу 17-цёх год ад роду.

# Паштовая скрынка.

П. Лішні ў Гарадку. Верша ня зьмесьцім, пішэце прозай.

К. Жыгала ў Наваградку. Корэспондэнцыі аб вапне ня зьмесьцім, для вёскі яна не падходзіць.

Францук Сьвірэпа ў Нядзьведзічах. Вершы перададзены ў літаратурны аддзел, калі падыйдуць—зьмесьцім.

Сьцяпан Гэрбік у Жыровіцах. Выслалі Вам пісьмо. Чакаем корэспондэнцыі.

ПАПРАЎКА.

У папярэднім №-ры (9-м) „Б.Д" ў пачатку заметкі „Дзікі гвалт", на апошняй старонцы, памылкова было надрукована: „27 сакавіка" — павінна быць: „27 красавіка".

Рэдактар-выдавец Ф. УМЯСТОЎСКІ Выд. Т-ва „Родопь" Друк. „Рах", вул. Сьв. Ігната 5.